Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага № 40 грошы.



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

1937 № 1

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Каралеўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 4 зл., на паўгоду — 2 зл. — гр., ~~на 3 мес. — 1 зл. — гр.~~

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.



## ЗЬМЕСТ:

# Хмель і лаза.

У верасьні 1936 г. у Новым Томысьле (Пазнаншчына) адбыліся таргі хмелю, да якіх далучаны быў паказ лазы дзеля вырабу кошыкаў. У таргох брала ўдзел каля 500 плянтатараў хмелю і больш 800 плянтатараў лазы.

З тае прычыны камітэт таргоў выдаў брашуру п. н. „Хмель і лаза ў новатамыскім павеце", з якой даведываемся, што ўжо ў 1883 г. хмель новатамыскі атрымаў найбольшую цану на сусьветным рынку, а вартасьць прадукцыі раўнялася 6 мільёнам марак. Другой і важнейшай крыніцай даходу Наватамыскага павету зьяўляецца лаза. Раёны ракі Одры і яе даплываў, ды ракі Варты, шмат раоў з бягучай вадой, стварылі памысныя варункі для гадоўлі лазы. Паўстала там гадоўля 100 гадоў таму назад у мясцовасьці Тосцень.

Адзін з мясцовых жыхароў, прыехаўшы з Амэрыкі, прывёз з сабой вартасную адмену лазы, катороя атрымала назоў „Амэрыканкі". Так паўстала прадукцыя лазы.

Лазу пачалі садзіць там, дзе не аплачывалася гадоўля хмелю. Вартасьць выпрадукаванай лазы прадстаўляе суму каля 2 мільёнаў злотых. Запатрабаваньне на лазу ўсьцяж узрастае, як у краі, так і заграніцай. Вывозіцца яна пераважна ў Нямеччыну, Скандынавію, Швайцарыю і Галяндыю.

---

Зьмяшчаючы гэтую кароткую зацемку ўзятую з „Ілюстраванага Курьера Кракоўскага", зварочываем увагу паважаных чытачоў, якія аграмадныя даходы можа даць шчасьліва і разумна падабраная расьлінная культура.

Дадаць трэба, што прадукцыя лазы і ў нас, шмат дзе была-б на мейсцы.

# АБВЕСТКА.

# Беларуская Борць

**Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак**

№ 1 ЛЮТЫ 1937 г. ГОД IV

## Ад выдавецтва.

Прайшло чатыры месяцы ад выхаду ў сьвет папярэдняга нумару „Бел. Борці“. Аднак нашае выдавецтва ня можа пахваліцца, каб за гэты час зьмянілася яго цяжкое грашовае палажэньне.

Прыступаючы да выдаваньня „Беларускай Борці“ мы разьлічывалі перад усім на падтрыманьне тых, для каго часапісь быў прызначаны. Як з самага пачатку мы ўжо шмат разоў паўтаралі выдавецва нашае распачаўшы сваю працу па выдаваньні часапісу саматугам пайшло на спатканьне сваіх чытачоў і перайшло на друкарскі спосаб выдаваньня папера джаючы пры гэтым, што само выдавецтва можа даць толькі бязінтарэсоўную працу сваіх супрацоўнікаў, а грашовыя сродкі за друк, паперу, паштовыя выдаткі і іншае павінны даць чатачы ці то ў форме складак, ці ахвяраў на выдавецкі фонд. Мыляцца тыя, што кажуць, каб часапіс дапамог ім палепшыць сваю гаспадарку, сваё жыцьцё, а тады і яны падтрымаюць яго. Мы ўжо з самага пачатку зазначылі, што мы асабіста грошаў ня маем, ні на якія дапамогі ня лічым, дык якім-жа коштам друкаваць часапіс? З пустога не наліеш!

А нашыя чытачы, мусім з сумам прызнацца, не заўсёды сумленна выконывалі свае абавязкі. Шмат хто зьвяртаючыся з прозьбай аб высылцы „Белар. Борці“, абяцаў прыслаць грошы, але на гэтай абяцанцы і скончылася. Адным словам складкі на часапіс паступалі слаба і неакуратна, а ў зьвязку з гэтым і часапіс нямог выхадзіць рэгулярна. Паўставалі перарывы ў выніку якіх удавалася выдаць за год 4—6 нумароў, інакш кажучы толькі столькі, на колькі хапала прысланых грошаў.

Вось прычына неакуратнага выхаду часапісу. Вось адказ на шматлікія запытаньні ў гэтай справе, якія апошнімі часамі надыходзяць у нашую рэдакцыю са ўсіх куткоў нашае краіны.

Што-ж будзе далей?

Выпускаючы з вялікім высілкам гэты нумар у паменьшаным разьмеры мы зноў паўтараем наш заклік да нашых чытачоў, да пчаляроў і наагул усіх тых, каму дарагая „Беларуская Борць“ з прозьбаю памажэце! Мы пашыраем часапіс зьместам, каб зрабіць яго цікавай для шырэйшых кругоў нашага сялянства. На бягучы год пробуем абнізіць складку да 2 злотых на год, каб зрабіць часапіс больш даступным. Калі нашыя чытачы і ўсе тыя, што зьвярталіся да нас аб пробныя нумары, прышлюць па 2 залатоўкі ды яшчэ ўрэгулююць залеглыя складкі, дык часапіс атрымае магчымасьць выходзіць сыстэматычна і акуратна.

Ад Вашае акуратнасьці залежыць і акуратны выхад „Беларускай Борці“.

**ВЫДАВЕЦТВА.**

# Наша новая праграма.

Крызыс заламаўся. Так гавораць як фаховая, так і штодзенная прэса. Ня будзем затрымлівацца над тым пасколькі палепшаньне коньюнктуры цэн адбілася на інтарэсах селяніна-земляроба. Да гэтае справы, калі будзе магчыма, можа і вернемся. Зараз-жа, прымаючы ў аснову ўспомненае цьверджаньне прэсы, перагледзім і мы сваю праграму, дапасоўваючы яе да тых агульных настрояў, якія апаноўваюць усё гаспадарчае жыцьцё.

Перажываны крызыс значна зьмяніў пагляды на ролю земляробства ў агульна-гаспадарчым жыцьці. Паўстала вялікае зацікаўленьне ўсіх дзейнікаў земляробствам наагул, а асабліва земляробствам дробным — сялянскім, якому ў бліжэйшыя часы прыдзецца адыграць значную ролю ў агульна-гаспадарчым жыцьці народаў.

Паўстала ў зьвязку з гэтым і зацікаўленьне сялянствам, як клясаю дробнага земляробства. Усплыла на паверхню і справа культуры вёскі — гэтага асяродзішча сялянства.

Усё гэтае адчуваецца і вёскаю. Вёска разумее і адчувае тыя абавязкі, якія накладае на яе сучаснае жыцьцё. У асобах сваіх перадавых адзінак вёска разумее, што ад земляроба-селяніна пры сучасных варунках вымагаецца ня толькі знаёмства з тэхнікай земляробскае працы, ад яго вымагаецца і зразуменьне ролі, якую адыгрывае яго праца ў агульна-гаспадарчым жыцьці народу. Інакш кажучы земляроб павінен быць і эканамістым.

Гэтакага земляроба-эканаміста-га можа ўзгадаваць толькі адпаведная школа. Але ня ўсім даступна гэтакая школа, а людзям старэйшага веку ня час ужо і вучыцца.

Паўстае патрэба ў прыяцелі, які мог-бы хоць крыху заступіць гэтыя недахопы. Гэтакім прыяцелям можа быць толькі кніжка, або часапіс.

Гэта мы і кладзём у аснову пры перагледзе нашае праграмы. Пашыраючы зьмест „Бел. Борці“, уводзячы ў яе новыя адзелы, мы будзем старацца абхапіць паступова ўсе галіны земляробскае гаспадаркі і сялянскага жыцьця, каб наш чытач мог знайсьці ў „Бел. Борці“ адказ на усе пытаньні, якія могуць паўстаць у яго жыцьці ці то у галіне яго фаховае працы, ці асабістага жыцьця і іншыя.

Тэмы парушаныя ў артыкулах не заўсёды могуць даць гэтакія адказы дзеля чаго мы ўводзім аддзел адказаў на запытаньні, у якім будзем даваць нашым чытачам адказы на цікавячыя іх пытаньні ня толькі з галіны пчалярства, садоўніцтва і агародніцтва, але і земляробства наагул, з вэтэрынарыі, мэдыцыны, праўныя і іншыя

Вось праграма нашае працы на бліжэйшую будучыню.

Мы добра разумеем, што рэдакцыя зложаная нават з найлеп-

шых спэцыялістаў і вучоных. ня можа адбіць у часапісу праўдзівага жыцьця бяз цеснай сувязі з людзямі практыкі. Дзеля гэтага мы заклікаем усіх тых, што здабыўшы тую ці іншую веду аддаліся практычнай працы на вёсцы да супрацоўніцтва з намі.

Мы верым, што агульнымі сіламі мы здолеем выканаць нашую праграму і быць карыснымі для нашага народу.

М. Манцевіч.

*Хочаш, каб „Беларуская Борць“ выхадзіла акуратна — прышлі падпіску.*




# АД ТАВАРЫСТВА „ПЧАЛА“.

Шукаючы крыніцаў палепшаньня свайго дабрабыту нашыя селяне перадусім зварочываюць увагу на пчалярства. І гэта зусім слушна. Гадуючы пчол, выкарыстоўваем натуральнае багацьце нашага краю — яго медадайную флёру (расьлiннасьць) і можам запэўніць сабе немалыя зыскі. Але, трэба сказаць, толькі тады, калі пчалярства будзе стаяць на належнай вышыні, калі будзе вясьціся рацыянальна і зарганізавана.

Зарганізаваць, злучыць у адно ўсіх беларускіх пчаляроў—вось была мэта, якую паставілі сабе ініцыятары, закладаючы Беларускае Каапэратыўнае Т-ва „Пчала“.

Нажаль нашы пчаляры не разумелі яшчэ, відаць, патрэбы супольнай арганізаванай працы і адклікнуліся ў вельмі малым ліку.

Малы лік сяброў, малы лік паёў—г. зн. малы абаротны капітал, не пазволілі, паміма высілкаў кіраўніцтва, стварыць нічога пазытыўнага і трывалага.

Сягодня перад Т-м „Пчала“ стаіць праблема або ажывіць сваю дзейнасьць, або зьліквідавацца.

Агульны Сход, які адбыўся дня 7 сьнежня 1936 г. пастанавіў захаваць Т-ва і дaручыў Управе і Нагляднай Радзе зрабіць усе магчымыя высілкі, каб працу Т-ва ажывіць і пашырыць.

Дзеля гэта мы зварочываемся ня толькі да сяброў Т-ва, але да ўсіх пчаляроў і да ўсяго беларускага грамадзянства з гарачым заклікам аб падтрымаўвні Т-ва, гэтае блізу што нашае адзінае гаспадарчае пляцоўкі.

Усіх тых, хто лічыць патрэбным захаваць Т-ва і пашырыць яго дзейнасьць, якая ахоплівае ня толькі пчалярства, але і зелярства, мы заклікаел да запісываньня ў сябры Беларускага Кооперацыйнага Т-ва „Пчала“. Пай 10 злотых, якія пры выхадзе з Т-ва зварочываюцца назад. Апрача таго ўпісовыя 2 зл. і сяброуская кніжка са статутам 50 гр.

Запісацца можна або асабіста ў канторы Т-ва Вільня, вул. Каралеўская 3—8, або праз пошту, але тады трэба далучаць паштовую марку на перасылку дэкларацыі.

Грамадзяне! Памятайце, што справа захаваньня Т-ва „Пчала“, гэта ня толькі справа пчаляроў, але справа нашага гонару.

Дык чакаем выяўленьня Вашае грамадзкае сьведамасьці!

**УПРАВА.**




# Зелярская справа.

У сучасных цяжкіх варунках жыцьця, калі кожны шукае працы і заработку, калі вёска высылае на заработкі тысячы народу нават заграніцу, мала зварочваюць у нас увагі на справу зялярства, якое таксама можа даць шмат каму працу і даволі добры заработак.

Сучасная мэдыцына як і прамысловасьць штогод павялічваюць сваё запатрабаваньне на прадукты розных лекарскіх і прамысловых расьлін. Недахоп сыр'я на краёвым рынку змушае шукаць яго заграніцай. Паводле статыстыкі Польшча купляе заграніцаю розных зёлак на суму каля 2 з паловаю мільёнаў злотых у год. І гэта пераважна такіх зёлак, якія растуць у краі нават у дзікім стане. Возьмем для прыкладу звычайны румянак (Matricaria Chamomilla), які расьце ў нас як звычайнае пустазельле, а мае вялікае застасаваньне як у мэдыцыне, так і ў прамысловасьці. Яго аднаго купляецца заграніцаю нават вялікія колькасьці, бо гадоўля і збор з дзікага стану ня могуць пакрыць запатрабаваньня. А мы маглі-б ня толькі пакрыць краёвае запатрабаваньне, але нават вывазіць наш румянак заграніцу, тым балей, што як паказаў аналіз, наш румянак ёсьць нават лепшы за вэнгэрскі, які мы купляем. Трэба для гэтага толькі адпаведна арганізаваць гадоўлю, збор і збыт.

На-жаль у нас селянства, якое магло-бы з карысьцяй для сябе заняцца зелярствам яшчэ ня прызвычаілася глядзець на яго паважна. А калі паглядзім што робіцца ў гэтай справе ў нашых суседзяў, дык пабачым, што яны маюць з зялярства ня малыя карысьці. Нямеччына, Чэхаславаччына, Аўстрыя, Вэнгрыя і іншыя з вялікай карысь-



цяй займаюцца гадоўлай лекарскіх расьлін, ня кажучы ўжо аб СССР дзе паводле статыстычных дадзеных 1930—1931 г. г. абшар зелярскіх плянтацыяў перавышаў 63 тысячы гэктараў, а ў нас ува ўсей Польшчы плянтацыі гэтыя выносяць толькі каля 524 гэтараў. (Дадзеныя ўзятыя з тыднёвіка „Życie Rolnicze“ Nr. ).

Але ня будзем гаварыць ужо аб гадоўлі. На нашых землях, з багатай расьліннасьцяй і пры вялікіх абшарах няўжыткаў, можна знайсьці больш соткі розных лекарскіх і прамысловых расьлін, якія растуць у дзікім стане і зусім не выкарыстоўваюцца. Гэтакае марнаваньне свайго багацьця проста прaступак.

Праўда, вельмі часта прыходзіцца чуць, і зусім слушна, што збор зёлак не аплачваецца, але прычына гэтага ўсяго ў тым, што мы ня маем добра зарганізаванага гандлёвага апарату. Да гэтага часу гандаль зёлкамі знаходзіўся ў руках прыватных гандляроў, што стаяла на перашкодзе.

На гэты бок справы му ўжо даўно зьвярнулі ўвагу і справу зёлак увялі ў круг дзейнасьці нашага Т-ва „Пчала“, але нажаль нічога не маглі зрабіць. Прычына адна —ня было грошаў.

У апошнія часы справаю гандлю зёлкамі зацікавіліся і польскія грамадзкія дзейнікі У Варшаве заснаваўся Зелярскі Коопэратыў, які хоча згуртаваць у сваіх руках увесь гандаль зёлкамі У Львове адчынілася філія гэтага коопэратыву. На нашых землях, яшчэ раней паўстала некалькі арганізацыяў і таварystваў, якія заняліся скупам зёлак, і як трэба спадзявацца, стануць пасярэднікамі паміж збірачамі і плянтатарамі і ўспомненым коопэратывам. Нашае Т-ва „Пчала“ таксама прыступае да Зелярскага Коопэратыву. Адным словам робіцца ўсё, каб вызваліць гандаль зёлкамі з палону, у якім ён знаходзіўся, пабудаваць яго на грамадзкіх коопэратыўных падставах і вызваліць гэтым плянтатара і збірача ад вызыску праз прыватны капітал.

Надходзіць новы сэзон Маем надзею, што асобы, якія ўзяліся за арганізацыю коопэратыўнага гандлю зёлкамі здолеюць арганізаваць пункты скупу і вывядуць праз гэта нашае зелярства на новыя шырокія шляхі.

---

## На гэтым мейсцы падаем сьпісак расьлін гадоўлю і збор якіх прапагандуе Зелярскі Коопэратыў.

1. Ганыж (Pimpinella anisum)
2. Дурман (Datura stramonium)
3. Чарнушка (Nigella sativa)
4. Гарчыца чорная (Brassica nigra)
5. Кмен (Carum carvi)
6. Канвалея (Convallaria majalis)
7. Кроп гародні (Anethum graveolens)
8. Кроп італіянскі (Foeniculum capilaceum)
9. Грецкае сена (Trigonella foenum graecum)
10. Валерыянка (Valeriana officinalis)
11. Арніка (arnica montana)
12. Ляванда (Lavandula officinalis)
13. Блёкат (Hyociamus niger)
14. Гіпсоўка (Gypsophilla panic)
15. Мята пятровая (Mentha piperita)
16. Сьляз (Althaea officinalis)
17. Румянак (Matricaria chamom)
18. Рабарбар (Reum officinale)

19. Шалвея лекарская (Salvia officinalis)
20. Сардэчнік (Erythraea cent.)
21. Красаўка (Atropa bell.)
22. Бэз белы (Sambucus nigra)
23. Ліпа дробналістая (Tilia parvil.)
24. Ліпа вялікалістая (Tilia grandif.)
25. Барвінак (Vinca minor)
26. Бабок-Бабоўнік (Menyantes trif)
27. Чарніца (Vaccinium myrtil.)
28. Братачкі (Viola tric.)
39. Брушніца (Vaccinium vitis idaea)
40. Бяроза (Betula verrucosa)
41. Дуб (Quercus)
42. Ялавец (Juniperus commun.)
43. Ажына (Rubus fruticosus)
44. Крушына (Rhamnus frangula)
45. Маліна (Rubus idaeus)
46. Мох ісландзкі (Cetraria islan.)
47. Малачай (Taraxacum offic.)
48. Пырнік (Triticum repens)
49. Парэчка чорная (Ribes nigrum)
50. Кацячыя лапкі (Alchem. arv.)
51. Падарожнік (Poligonum avic)
52. Загартушка (Drosera)
53. Смаржкі (Morchella)
54. Спарынц (claviceps purpur)
55. Дзераза (Lycopodium)

---

## Садоўніцтва і агародніцтва.

А. ВОЙЦІК.

# Ці аплаціцца закладаць фруктовыя сады?

На жаль мы ня маем пад рукой дадзеных аб колькасьці фруктовых дрэваў у нашым краі, ведаем толькі, што ў часе суровай зімы 1928/29 г. шмат дрэваў вымерзла. Паводле правізарычнага аблічэньня К. Енша ў 1935 г. было ў Польшчы 20 мільёнаў фруктовых дрэў, з якіх што год гіне 5% г. зн. адзін мільён, які трэба замяніць новымі шчэпамі.

Ці гэтых дрэвак зашмат?

Узяўшы пад увагу, што дрэвы родзяць ня што год, а праз два і тры гады, і што ў сярэднім ураджай з гэтых дрэваў у добрыя гады дасьць больш менш 50 кл., то атрымаем 500 мільёнаў клг. (10 мільёнаў па 50 клг), а дзеля таго, што ў Польшчы ў круглай суме ёсьць 33 мільёны людзей, дык на адку асобу выпадзе каля 15 клг. у год.

За граніцай, а асабліва ў Англіі, кажуць, што яблыкі зьяўляюцца найбольшым канкурэнтам дактароў і аптэк, бо хто што дзень праз цэлы год есьць хоць па адным яблыку, той ніколі не хварэе і яго лячыць ня трэба. Павінна і ў нас гэтак быць. І калі кожны грамадзянін будзе есьці па адным яблыку ў дзень, то яму трэба будзе 73 клг. яблыкаў, а ў нас сярэдні ўраджай дае фруктаў — яблыкаў, грушак, сьліў і г. д. па 15 клг. на асобу, г. зн. шмат менш, як трэба.

Доказам вышэйсказанага зьяўляецца тое, што Польшча кожны год шмат фруктаў прывозіць з заграніцы, асабліва з Амэрыкі.

Як аплачываецца гадоўля фруктовых дрэў? Нармальна на адзін гэктар садзім 100 дрэў. Пакуль дрэўцы маладыя і ня родзяць, дык не перашкаджаюць выкарыстоўваць зямлю пад што іншае. Па 5—8 гадох сад пачынае радзіць.

Возьмем тыя самыя цыфры: 50 клг. х 100 дрэў — атрымаем 5000 клг. і калі нават прададзём іх па 25 гр. за 1 клг. то атрымаем 1250 зл. даходу брутто і гэты даход падзелім на 2 гады, дык будзе 625, а зямлю таксама можна выкарыстоўваць. Гэтакі даход атрымаем з дрэваў маладых, як узмоцняцца, то даход будзе значна большы.

Які-ж расход: Абмінаючы кошт самых шчэпаў, іх саджэньне, расход будзе не вялікі.. Пакуль дрэвы маладыя, яны карыстаюцца з таго навозу, каторы кладзецца пад іншыя культуры ў садзе, пасьля, як пачнуць радзіць, трэба пад кожнае дрэўца даваць навоз асобна, але на вёсцы навоз гэты мала каштуе, ды яшчэ кошт барацьбы са шкоднікамі, апрысківаньне.

З вышэйсказанага відаць, што сад дае добры даход, якога ня дасьць ніякая іншая расьліна, але трэба за справу брацца ўмела, гэтую-ж умеласьць, фаховую параду дасьць вам наша часопісь.

Цяпер добры час на закладаньне новых садоў. Намножылася школак, — у Польшчы іх ёсьць 660, каторыя што год прадукуюць да 5 мільёнаў шчэпаў. У параўнаньні з запатрабаваньнем, гэта колькасьць вялікая і дзеля гэтага цэны на шчэпы ня высокія — 3—4 летнія шчэпы каштуюць ал 1 зл. да 1,50 зл. за штуку.

Хто-ж ня можа купіць шчэпаў, той хай набывае дзічкі гарантаванай якасьці ў школцы нашага падпісчыка гр. Гапанёнка (адрас у рэдакцыі) і сам іх прышчэпіць.

## Больш увагі агародніцтву.

Наракаем на цяжкія часы. Людзей прыбывае што раз больш, а зямлі ня прырастае. Разумеецца, што маленькі кусок зямлі, ня можа ўтрымаць сялянскай сямьі, але бедаваньне тут не паможа, а трэба брацца за новыя спосабы гаспадараваньня.

Хто мае ня больш як два гэктары зямлі, павінен закінуць плуг, а ўзяцца за лапату і садзіць агародніну.

У такой дробнай гаспадарцы ня змома ніколі селянін с браць столькі збожжа, каб пракарміць сваю сямью праз цэлы год. Але агародніны зьбярэ даволі ня толькі для сябе, але і на прадажу. Можа мець даволі бульбы, буракоў, морхвы. капусты, агуркоў, гароху, шальбабону (фасолі) цыбулі і г. д. Зможа таксама нагадаваць кармовых буракоў для каровы, хопіць мейсца і на якую небудзь для яе пашу: люцэрну, баркун, ды нешта падобнае Зьбярэ таксама ня мала адпадкаў для сьвіней. Гэтак робяць на захадзе Эўропы, гэтак у Японіі. Там парой поле выглядае, як адзін вялікі агарод.

— Агародніва ў нас замала цэніцца як ежа. У той час, як яна дае чалавеку найбольш патрэбных для здароўя складнікаў і шмат здаравейшая за крупы ды муку, якой пераважна харчуецца наш селянін. Гаспадарка агародніцкая з дадаткам саду дасьць магчымасьць пражыць і дакупіць хлеб, збожжа якога ў сябе ня будзем сеяць.

# Дробныя ґадоўлі.

## Варта зьвярнуць увагу на гадоўлю кролікаў.

У аднэй з польскіх гаспадарчых газэт чытаем, што: „у мінулым годзе Швэцыя вывязла ў Англію 200 тоннаў мяса кролікаў... У зьвязку з гэтым вывадам пабудавалі ў горадзе Майвікэн навачасную бойню і халадзільню, у якой пера хоўваецца мяса кролікаў. Пры бойні пабудавалі гарбарні, дзе перарабляецца скуркі кролікаў, якія маюць вялікі збыт у Кітаі і Японіі.“

Гэтая кароценькая вестка змушае кожнага паважна задумацца... Значыцца кролікі карысная жывёла, дае мяса, якога наша вёска так мала каштуе, ды дае скурку ва прадажу.

Ці варта нам, асабліва малазямельным селянам зьвярнуць увагу на гэтую зусім нязнаную галіну гаспадаркі?

Гадоўля прамысловая, якая былаб галоўнай крыніцай утрыманьня цэлай сям'і, магчыма толькі тады, калі яе заргані͏зуе практычны спэцыяліст, а сам прадпрыемца мае таксама адпаведную падґатоўку і пятрэбны капітал на пачатак.

Але гадоўля гаспадарская, г. зн. такая, якая зьяўляецца толькі дадатковай галінай селянскай гаспадаркі, даступная і магчымая для кожнага.

— Кошты ўтрыманьня кролікаў зусім невялікія і праца каля іх лёгкая, перадусім адпаведная для падросткаў і моладзі.

Кролікі множацца вельмі хутка і хутка дарастаюць; даюць вельмі смачное, далікатнае, белае, як у куркі, мяса і прыгожыя скуркі, на якія заўсёды ёсьць запатрабаваньне.

Скуркі кролікаў ужываюцца або у натуральным стане, або па драбляныя пад скуры дарагіх зьвяроў. Але трэба і мніць, што добрую цану можна атрымаць тользі за скуркі кролікаў расовых і то такіх расаў, якія ў даны час на футраным рынку маюць найбольшае запатрабаваньне. — Ёсьць пэўная раса кролікаў, якія даюць добры даход яшчэ падчас свайго жыцьця, гэта кролікі *Ангорскія*.

Ангорскія кролік гадуюцца дзеля сваей надзвычайна далікатнай, прыгожай і цёплай воўны.

Практыка паказывае, што гадоўля ангорскіх кролікаў, гэта занятак карысны, які можа даць даход цэлай групе людзей.

Воўну ад гэтых кролікаў атрымліваюць чэшучы іх спэцыяльным зялезным грэбянем. Пачынаецца іх часаць ужо на 7-м тыдні жыцьця і пасьля чэшыцца к жныя 10 дзён.

Добра і чыста ўтрыманы кролік у працягу году дае ад 250 да 300 грамаў воўны. За 1-но кілё воўны плацяць ад 40 да 60 зл. залежна ад яе гатунку.

Запатрабаваньне на воўну ёсьць вялікае і сталае, як на краёвыя патрэбы так і на вываз заграніцу.

Воўну можна гэтак сама прасьці ў сябе дома і прадаваць прадзеную, а нават рабіць з яе на прадажу рукавічкі, шалікі, шапачкі і сфэтры. З вышэйсказанага відаць, што гадоўля ангорскіх кро-

лікаў вельмі надаецца для дзяўчат. Дзяўчаты акуратней за мужчын змогуць кролікаў дагладаць, што мае вялікае значэньце для чыстаты і якасьці воўны, а таксама змогуць яе самі перарабіць на гатовыя часткі адзежы і такім чынам больш зарабіць, чым прадаючы непрадзеную воўну.

У Францыі і ў Амэрыцы гадоўляй ангорскіх кролікаў займаюцца цэлыя хаўрусы, якія на мейсцы гадуюць кролікаў, прадуць воўну і робяць з яе адзежу. Трэба помніць, што апрача карысьці, якую гэты адзіны з кролікаў дае падчас свайго жыцьця, можа прынясьці яшчэ карысьць пасьля сьмерці, даючы мяса і скурку. Якасьць мяса залежыць, як і другіх кролікаў ад іх веку.

*З. В.*

*Ад Рэдакцыі*: Зьмяшчаючы гэты артыкул радзім паважным чытачам зьвярнуць на яго ўвагу. На жаданьне ў наступных нумарох будзем зьмяшчаць падрабязныя артыкулы аб гадоўлі кролікаў, а таксама інфармацыі аб мейсцах збыту воўны і адрасы гадоўцаў розных расаў.

## Ці аплачываецца гадоўля курэй.

Амаль ня кожная наша гаспадыня, а ўжо гаспадар то напэўна кожны, скажуць, што не. Але чаму?

Чаму ёсьць заграніцай, напр. у Даніі, цэлыя курыныя гаспадаркі, якія даюць добрыя даходы сваім уласьнікам?

А нашы курачкі толькі шкоду ў гародах робяць ды сваркі ў хаце выклікаюць, а яечкі нясуць галубіныя.

Усім хіба ясна, што, каб курыца дала добры даход, мусіць яна быць адпаведна дагледжанай, мець добры курнік і адпаведны корм.

Але і пры найлепшым доглядзе нашыя вясковыя курачкі карысьці вялікай даць ня змогуць; перадусім таму, што яны мала нясуцца, а па другое, што нясуць маленькія яечкі.

Ня трэба хіба гаварыць, што большую цану атрымліваецца за яйкі *большыя, цяжэйшыя, чыстыя*, бо *сьвежыя*, меньшую за малыя і брудныя.

Каб мець лепшы даход, трэба гадаваць такія куры, якія нясуць большыя і цяжэйшыя яйкі.

Трэба таксама ведаць, што спажыўцы зварочываюць увагу і на коляр яйка.

Можна было-б пры помачы паступовага падбору выгадаваць адпаведныя куры са сваей простай вясковай расы, але гэта рэч трудная і вымагае шмат працы і часу.

Лепш ужо адразу завясьці сабе куры адпаведнай расы, якія будуць нясьці яйкі такія, якіх вымагае ня толькі краёвы рынак, але і загранічны. Даўшы такім курам патрэбны дагляд, можна мець пэўнасьць, што прынясуць нам чаканы даход.

З паміж розных расаў дзеля нашай гаспадарскай гадоўлі найбольш адпаведныя гэтак званыя Род-айленды (кармазыны). Паходзяць яны з Амэрыкі. Куры вялікія, цяжкія. 2-гадовы пятух важыць 4—4½ кілё курыца да 3 кіл. У нашым клімаце гадуюцца вельмі добра. Вытрывалыя на холад, старанна пасуцца і пры адпаведным падборы добра нясуцца праз цэлую зіму.

Яйкі нясуць вялікія 55—70 грамаў вагі, у цёмнай шалупіне.

Мяса маюць вельмі дэлікатнае і смачное. Вельмі лёгка тлусьцеюць і дзеля гэтага старэйшыя штукі можна падкарміўшы прадаць за добрую цану. Трэба дадаць, што маюць вельмі густы і мяккі пух, які ў хатняй гаспадарцы напэўна знойдзе застасаваньне.

*В. Л.*

**Ужо цяпер думайце аб наступным сэзоне: Садзіце мёдадайныя дрэвы і кусты.**



## Грыпа і хатняе лячэньне.

Сёлетняя цёплая ды мокрая зіма вельмі спрые разьвіцьцю хваробы званай *грыпай.* Часта, асабліва ў самым пачатку хваробы мала зварочываецца на яе ўвагі, бо азнакі яе такія самыя, як пры звычайнай прастудзе. Боль галавы, катар, кашаль, боль рук і ног, часам боль горла, усё гэта здаецца не страшное і „само пяройдзе“.—Але з грыпай жартаваць нельга, бо яна ўпару ня вылячаная можа выклікаць шмат розных, небясьпечных хвароб, як напр. запаленьне лёгкіх, запаленьне вуха, можа ўпасьць на сэрца, а нават на мазгі.

Дзеля гэтага пры першых азнаках хваробы, трэба хворага палажыць у ложак і перадусім выклікаць поты. У горадзе, дактары прыпісываюць аптэчны лек — аспірыну. Але гэта зусім лішняе выкіданьне грошай, бо мы маем свае даўна знаныя натуральныя лекі: *маліны і ліпу* Маліны, найлепш сушаныя ягады, але хто іх ня мае можа зусім добра замяніць проста маліньнікам. Нават зімой наламаны маліннік, напараны з лыжкай (на шлянку) мёду, выклікае патрэбныя поты.

Гэтак сама дзеіць ліпа.

Пры гэтым мёд папросту неабходны, бо ён сьцішае кашаль, лечыць горла і грудзі.

Калі-б горла балела дараць па некалькі разоў на дзень па лыжацццы мёду. Пры сільным, асабліва хрыплым кашлі, малако з мёдам і сьвежым маслам. Пры грыпе бывае вялікая гарачка; падчас яе ня можна даваць хвораму цяжкастраўнай, ежы; найлепш стравы малочныя, крупнік, някіслыя зупы і г. д.

Трэба помніць, што грыпа хвароба заразная і пераходзіць з чалавека на чалавека. Каб усьцерагчыся ад яе найлепш не хадзіць і ня пускаць дзяцей у хату, дзе ёсьць хворыя. Гэтак сама трэба сьцерагчыся перамачываць ногі і выходзіць разагрэўшыся на холад.

Пры гарачцы заўсёды бывае вялікая смага. Піць можна даваць якнайбольш, але нічога халоднага. Найлепш дзеіць цёплая вада з малінавым або журавінавым сокам.

Сок з журавінаў можна прыгатаваць зусім бяз цукру, ён ня псуецца, а толькі ўліваючы хвораму у ваду ўсыпаць у шкляньку крыху цукру.

— Зразумела, што ў цяжэйшых выпадках найлепш, наколькі гэта магчыма, паклікаць доктара.

Выдавец - Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага нум. 40 грошы.

# Беларуская Борць

Адрыс Рэдакцыі
і адміністрацыі:
Вільня,
Каралеўская вул. 3—8.

Рэдакцыя адчынена
ў аўторкі і пятніцы
ад 10 до 14 гадз.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
на год . . . . . . . . 2 зл.,
на паўгоду . . . . . 1 „
Заграніцу — удвая даражэй.
Цана абвестак поводле ўмовы.

**№ 2—3**

**1937 г.**

## ЗЬМЕСТ:

## Ад Выдавецтва

У папярэднім нумары мы прасілі нашых чытачоў аб урэгуляваньні залеглых складак і аб акуратнай прысылцы бягучых.

Шмат хто ўжо ўрэгуляваў свае даўгі, але шмат астаецца ашчэ ня ўрэгуляваных.

Яшчэ раз просім прысылаць прысылку грошаў. Кожны чытач павінен добра разумець, што бяз грошаў ня можа выходзіць часапіс.

Дармавых чытачоў не павінна быць.

Грошы можна перасылаць разрахунковымі пераказамі (дарма) на рахунак № 34.